КАЛЯНДАР САДАВОДА АГАРОДНІКА на 2021 год старонкі 12-13

Месяцавы каляндар згрупаваны па работах у садзе і агародзе, згодна з канкрэтнымі агракультурамі. Уличаныя квадры Месяца, праходжанне Месяцам знакаў задыяка.


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

5 лютага 2021 года №6 (1345) 18+


# Ці трапляюць нітраты з гною фермаў у ваду, якую мы п'ём

старонкі 2-3

Аляксандр Дарашэвіч у Гальшанах бярэ ваду ў ручаі для пробы на нітраты.

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.




ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Ці трапляюць нітраты з гною фермаў

## Як актывісты ў рэгіёне вызначаюць забруджванне прыроды

**Гумовыя боты, тэст-палоскі для праверкі ўзроўню нітратаў у вадзе, фотаапарат – такі працоўны набор мае актывіст, каб правесці рэйд па жывёлагадоўчых комплексах у сваёй мясцовасці.**

У нашым выпадку актывіст – гэта **Аляксандр Дарашэвіч**, гаспадар аграсядзібы ў Астравецкім раёне. Ужо не першы год у супрацы з Цэнтрам экалагічных рашэнняў (ЦЭР) ён правярае, ці не церпіць прырода ад суседства з сельскагаспадарчымі пабудовамі. Разам з ім мы адпраўляемся ў паездкі па Гродзенскай вобласці.

Асноўнае, што нас цікавіць, – ці не трапляюць нітраты з гною, які ўтвараецца на фермах, у ваду.

18-22 літры ў суткі – менавіта столькі сцёкавых водаў з утрыманнем гною ўтвараецца на свінагадоўчых комплексах ад адной жывёлы, паводле інфармацыі ЦЭР. Памножыўшы лічбу на колькасць галоў на канкрэтнай ферме, можна ўявіць, з якім аб'ёмам небяспечных адходаў даводзіцца мець справу.

### Нітраты і фермы: як яны звязаныя і чаму могуць быць небяспечнымі

Нітраты – гэта солі азотнай кіслаты, якія неабходныя для сілкавання раслін.

Але калі іх у зямлі надта шмат, то яны трапляюць у грунтавыя воды, а адтуль – у нашу пітную ваду.

Калі пастаянна піць ваду з павышаным узроўнем нітратаў, то можна пашкодзіць работу ўнутраных органаў, а таксама атрымаць такую хваробу, як метгемаглабанімія. Пры ёй кроў горш пераносіць кісларод да тканак і органаў.

Нітраты немагчыма ўбачыць – яны не маюць ні колеру, ні смаку, ні паху. Нават чыстая на вока вада можа быць моцна імі забруджаная.

Асноўная крыніца нітратаў – угнаенні і гной з жывёлагадоўчых комплексаў, якія месцяцца блізка да вады. Прычым не толькі да адкрытай вады – ракі ці возера – але і да грунтавых вод.

У Беларусі грунтавыя воды часта залягаюць вельмі блізка да паверхні зямлі, таму нітраты лёгка могуць у іх патрапіць.

Паводле даследавання, якое праводзілі спецыялісты па замове ЦЭР, 60% грунтавых водаў Гродзенскай вобласці амаль не абароненыя прыродай ад забруджвання. Гэта абумоўлена геалагічнымі асаблівасцямі тэрыторыі.

Таму асабліва важна сачыць за тым, каб жывёлагадоўчыя комплексы прытрымліваліся нормаў і не дапускалі, каб нітраты траплялі ў навакольнае асяроддзе.

### Апошні раз нормы для фермаў распрацоўвалі ў СССР

На просьбу распавесці, як павінна быць абсталяваная ферма па ўсіх нормах, спецыяліст па ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі ЦЭР **Наталля Парэчына** зазначае, што вось у гэтым і ёсць самая вялікая праблема.

– У Беларусі няма адзінага дакумента, дзе былі б сабраныя ўсе нормы, звязаныя з пытаннем абыходжання з гноем – тлумачыць эксперт. – Старыя нормы дзейнічаць перасталі, а новыя недастаткова дакладныя.

Раней арганізацыі кіраваліся дакументам, які выдаваўся яшчэ ў 1986 годзе. Цяпер юрыдычна ён ужо не дзейнічае. А па-другое, яго патрабаванні састарэлі, яны не адпавядаюць сучасным тэхналагічным і экалагічным рэаліям.

Ёсць іншыя дзяржаўныя дакументы, у якіх згадваецца гэты аспект жывёлагадоўлі. Напрыклад, «Стратэгія ў галіне абароны навакольнага асяроддзя» і «Водная стратэгія Рэспублікі Беларусь». Але многія рэчы ў іх не прапісаныя падрабязна.

Існуюць «Патрабаванні да арганізацый, якія ажыццяўляюць сельскагаспадарчую дзейнасць». Але там гаворыцца толькі аб тым, што «ў арганізацыях жывёлагадоўлі выбар спосабаў ачысткі і перапрацоўкі вадкага гною павінны адбывацца паводле патрабаванняў санітарных нормаў і правілаў, якія ўстанаўліваюць патрабаванні да сістэм водаадвядзення населеных пунктаў». Ніякіх дэталяў і падрабязнасцяў да гэтага пункта ў дакуменце няма.

### Якія парушэнні на фермах шкодзяць прыродзе?

– Прынцыпы пабудовы фермаў не мяняліся з самага пачатку іх узнікнення, – заўважае Аляксандр Дарашэвіч. – Іх заўсёды рабілі на ўзвышэнні, каб сцёкі ішлі ў нізіны. Але адна справа, калі на ферме некалькі дзясяткаў жывёл, – тады прырода спраўляецца з аб'ёмам гною. Але калі ферма на тысячу галоў – такі аб'ём адходаў нельга спускаць у навакольнае асяроддзе, трэба будаваць сістэму лагун. А гэта дарагая справа.



Магільнік каля свінакомплексу ў Гальшанах.

Каля вялікіх фермаў можна ўбачыць такія сістэмы: велізарныя яміны, напоўненыя гноем. Гэта сажалкі-адстойнікі. Сцёкі трапляюць у першую лагуну, дзе павінны адстаяцца. Дно ў яе герметычнае, таму шкодныя рэчывы не трапляюць у глебу. Там адбываецца тэрмічнае абеззаражванне, гінуць паразіты, сыходзіць вільгаць.

Пасля гной пераходзіць у наступную лагуну – яны звязаныя паміж сабой сістэмай сазлучаных сасудаў. Такім чынам гной праходзіць праз некалькі лагун, у кожнай з якіх адбываюцца неабходныя хімічныя працэсы.

Падаецца, што ўсё проста – калі ферма мае сістэму адстойнікаў, то якія праблемы могуць узнікнуць?

Па-першае, перапоўненыя лагуны, у якіх гной пераліваецца праз край. Так можа здарыцца тады, калі ферма разлічаная на адну колькасць галоў, а па факце ў ёй трымаюць болей жывёл.

Па-другое, могуць быць праблемы з герметычнасцю лагун – тады гной выцякае і забруджвае тэрыторыю навокал. Так здараецца тады, калі пры пабудове лагун выкарысталі няякасныя матэрыялы. А таксама тады, калі гной у лагуны выгружаюць каўшамі – яны могуць фізічна пашкодзіць дно. Каб гэтага пазбегнуць, варта выкарыстоўваць адмысловыя помпы.

Да таго ж, нават звычайная прыборка на ферме можа забрудзіць прыроду. На практыцы падчас прыборкі бруд часта проста змываюць вялікім аб'ёмам вады. Гэта не толькі неэканомна, але і небяспечна – у тым выпадку, калі пасля вада з рэштамі бруду трапіць у навакольнае асяроддзе.

Асобны момант – раскідванне гною трактарам па навакольных палях. Праблема пачынаецца тады, калі гной вывозяць узімку ці позняй восенню і скідваюць проста кучамі, поле ў гэты час не пераворваецца, а сцёкі з яго трапляюць у глебу. Або калі поле знаходзіцца блізка да вады – возера, ракі ці ваданосных слаёў глебы.

### Парушэнні на ферме можна ўбачыць… з космасу

Перад тым, як пабудаваць свой маршрут, Аляксандр Дарашэвіч шукае спіс фермаў на сайце выканкамаў. А пасля шукае іх на анлайн карце. Гугл-карты робіцца пра дапамозе спадарожнікаў і рэгулярна абнаўляюцца, яны даступныя ў інтэрнэце любому ахвотнаму. Знайсці на іх ферму – справа некалькіх хвілін.

– Калі наблізіць патрэбны ўчастак карты, то можна ўбачыць нават сляды трактара на зямлі, – тлумачыць сваю метадалогію Аляксандр. – А праторанная трактарная сцежка ля фермы можа быць сігналам таго, што гной вывозяць трактарам і раскідваюць па навакольных палях.

Таксама на анлайн картах можна ўбачыць лужыны і ручаі каля лагун – яны могуць сведчыць пра тое, што лагуны не спраўляюцца са сваёй задачай.

– Я не супраць фермаў, – кажа Аляксандр. – Але я за тое, каб імі кіравалі з розумам і адказнасцю. Работнікі фермаў часта самі жывуць непадалёк ад іх. Няўжо яны не разумеюць, што калі з фермы сцякае гной, то трапляе ім самім у ваду і ежу? У ваду, якую п'юць іх дзеці і ўнукі. Да таго ж чалавек можа і павінны жыць у прыгажосці. Нас шмат дзесяцігоддзяў адвучвалі ад гэтага. Усё навокал, нават ферма, можа быць прыгожым.

### Ашмянскі раён: леташнія парушэнні паўтарыліся

Першы прыпынак у нашай паездцы, у якую мы выправіліся напрыканцы 2020 года, – Гальшаны ў Ашмянскім раёне. Жывёлагадоўчыя комплексы тут размешчаныя зусім блізка да Гальшанскага замка.

Спачатку наведваем свінагадоўчы комплекс. Летась Аляксандр зафіксаваў тут некалькі парушэнняў, таму праз год вырашыў праверыць, ці змянілася сітуацыя.

– Бачу, што магільнік і помпу па адпампоўванні гною абнеслі плотам, – кажа ён. – Цяпер да іх немагчыма падысці і праверыць, ці ёсць парушэнні.

З убачанага на ўласныя вочы – трактар з поўным кузавам, які ад'язджае ад фермы ў поле. А на навакольных палях – брудныя лужыны са спецыфічным пахам. Непадалёк ад фермы ляжыць куча будаўнічага смецця.

Мы праходзім поле і спускаемся да ручая, які працякае ў нізіне. Аляксандр апускае ў ваду тэст-палоску – праз пару хвілін мы бачым вынік: павышаны ўзровень нітратаў.

– Улічваючы тое, што гэта ручай – вада ў ім не стаіць на месцы і пастаянна прамываецца асадкамі, – гэта вельмі кепскі вынік, – робіць высновы Аляксандр.

Ён фіксуе на фота ўсе ўбачаныя парушэнні, каб пасля падрыхтаваць зварот у Гродзенскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Мы едзем далей і спы-

# у ваду, якую мы п'ём каля фермаў

няемся каля малочнатаварнай фермы. Пакуль абыходзім яе тэрыторыю, кідаюцца ў вочы высокія зараснікі крапівы і палыну. Аляксандр тлумачыць, што менавіта гэтыя расліны здольныя хутка расці ў глебе, перапоўненай угнаеннямі. Яны выцясняюць іншыя віды і забіваюць біяразнастайнасць.

Калі падыходзім да сажалак-адстойнікаў, то бачым, што адна з іх перапоўненая, жыжа выцякае проста на зямлю.

– Як забівалася тут прырода год таму, так і забіваецца, – рэзюмуе Аляксандр.

Бачым таксама і гной на навакольных палях. Калі спрабуеш зрабіць фота лужын, на заднім плане велічна ўзвышаюцца руіны Гальшанскага замка. Спрэчнае суседства для прыцягнення турыстаў.

### Афіцыйны адказ: смецце прыбралі, адстойнікі ўмацоўваюць

Праз пару тыдняў пасля паездкі ў Гальшаны Аляксандр атрымаў адказ на свой зварот.

У ім адзначаецца, што будаўнічае смецце каля свінакомплексу прыбралі. Трактар сапраўды вывозіць гной у поле, але «ў месцы для часовага захоўвання», каб на вясну ўнесці яго як арганічнае ўгнаенне. З сістэмай ачысткі на комплексе ўсё ў парадку, запэўнілі ў адказе, яе рамантавалі ў 2019 годзе.

Каля малочнатаварнай фермы пацвердзіўся факт перапаўнення адходаў. Таму «вядуцца работы па ўмацаванні адстойніка», а таксама адправілі заяўку на тое, каб узяць пробы вады ў рацэ Гальшанцы.

### Смаргонскі раён: сцёкі ў Вілію і звалка ў полі

У наступнай паездцы мы накіраваліся ў Андрэеўцы, што на Смаргоншчыне. Па дарозе заехалі ва ўрочышча за Медрыкамі – ад мясцовых актывістаў паступіла інфармацыя, што тут сабралася звалка медыцынскіх адходаў.

На месцы мы сапраўды ўбачылі нешта падобнае на магільнік, прыкрыты дошкамі. З-пад яго былі відаць шкляныя ампулы. Месца выглядала недагледжаным.

– Па знешнім выглядзе немагчыма зразумець, ці гэта ўвогуле магільнік, ці мае ён гідраізаляцыю і ці не трапляюць шкодныя рэчывы ў ваданосныя слаі глебы, – кажа Аляксандр.

Зафіксаваўшы ўсё на фота, рухаемся далей.

Свінакомплекс у Андрэеўцах з першага погляду не мае ніякіх парушэнняў. Сажалкі-адстойнікі не перапоўненыя. Аднак на гугл-картах было відаць, што з адной з лагун выцякае жыжа. Таму ідзём далей і абыходзім усе лагуны.

Цікава таксама прайсціся па лесе, які раскінуўся паблізу фермы. У яго не ходзяць мясцовыя, бо разумеюць, што тут небяспечна збіраць грыбы ці ягады. Затое праз адсутнасць людзей лес аблюбавалі жывёлы – мы ўбачылі сляды ласёў, узрытую дзікамі зямлю, а на мяжы з полем – трох грацыёзных казуль. Жывёлы выбіраюць хоць і атручаную гноем, але бязлюдную тэрыторыю.

Гугл-карты не схлусілі: праз некалькі хвілін хады заўважаем сцёк. Ідучы ўздоўж яго, даходзім да Віліі. Рака ў гэтым месцы мае ненатуральны зялёна-смарагдавы колер. Значыць, лагуны ўсё ж негерметычныя.

У адказе абласнога камітэта прыродных рэсурсаў, які Аляксандр атрымаў праз некалькі тыдняў, наконт Андрэеўцаў адзначана, што «слядоў выкіду сцёкавых водаў на прылеглую тэрыторыю і меліярацыйныя каналы не выяўлена». Такой рэакцыяй Аляксандр незадаволены, таму збіраецца звяртацца ў Камітэт дзяржкантролю.

А вось несанкцыянаваную звалку каля Медрыкаў, паводле афіцыйнага адказу, прыбралі ў першай палове снежня.

### Тры крокі, каб выправіць сітуацыю

На пытанне, як пазбегнуць парушэнняў і захаваць ваду чыстай, Цэнтр экалагічных рашэнняў дае разгорнуты адказ.

Па-першае, стварыць групу па даследаванні тэхнічнага стану фермаў і комплексаў, якая высветліць, як фермы працуюць з адходамі. І падрабязна апіша сітуацыю.

Па-другое, распрацаваць праграмы па рамонце і мадэрнізацыі – дзесьці замяніць матэрыялы, якімі герметызуюцца лагуны, дзесьці змяніць сістэму прыборкі памяшканняў з жывёламі.

Па-трэцяе – весці пастаянны кантроль за выкананнем нормаў. Цяпер кантроль малаэфектыўны – не ў кожным раёне ёсць такія валанцёры, як Дарашэвіч, гатовыя самастойна сачыць за станам прыроды каля фермаў. Таму на месцы няма матывацыі выконваць правілы і выпраўляць парушэнні.

### «Рабі, што можаш, і будзь, што будзе»

Аляксандр кажа, што звычайна спрабуе вырашаць праблемныя моманты без зваротаў – тэлефануе, размаўляе, просіць звярнуць увагу. Але часам без зваротаў не абысціся.

– Шкада, што парушэнні адбываюцца, – разважае актывіст. – Спецыяльныя службы павінны знаходзіць іх самі, без нашага ўдзелу, а не даваць незразумелыя адказы на звароты. Я разумею, што спецыялістаў і ў ахове прыроды, і ў сельскай гаспадарцы не хапае. Таму калі нешта заўважу, то не прайду міма. Вядома, пад трактар кідацца не буду. Мне падабаецца прынцып «рабі, што можаш, і будзь, што будзе». Ім і кіруюся.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**96,1 %**

Удзельная вага гаспадарак, абуладкаваных водаправодам. На 1 студзеня 2021 года.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.01 | 4.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5818 | **2.6404** |
| Еўра | 3.1368 | **3.1764** |
| Злоты, 10 | 6.8882 | **7.0698** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4399 | **3.4694** |
| Грыўня, 100 | 9.1691 | **9.4381** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **27.01** | **3.02** |
| Еўра | 3.0700/3.1700 | **3.1200/3.2200** |
| Долар ЗША | 2.5300/2.6100 | **2.5900/2.6650** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 27.01 | 3.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,45 | **22,57** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,76 | **7,80** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,50 | **18,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,00 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,90 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 6,80 | **6,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,69 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,99 | **6,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Авакада, 1 кг | 14,00 | **25,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## На аўтадарозе каля Мясаты загінуў пешаход

МАЛАДЗЕЧНА

Абставіны здарэння расказалі ў ДАІ.

– 27 студзеня пасля 21 гадзіны 38-гадовы смаргонец на аўтамабілі «Ман» рухаўся па аўтадарозе Р28 з боку Мінска ў кірунку Маладзечна. На 62-м кіламетры дарогі ён наехаў на пешахода-мінчаніна 37 гадоў, які знаходзіўся на аўтадарозе без флікера, – расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.

Ад атрыманых траўмаў пешаход загінуў на месцы аварыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі пацярпелі жанчына-кіроўца і дзіця

МАЛАДЗЕЧНА

27 студзеня здарылася аварыя на Маладзечаншчыне. Пацярпелі кіроўца і дзесяцігадовае дзіця, расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.

Жанчына-кіроўца, жыхарка Маркава, ехала на аўтамабілі «Сузукі» па аўтадарозе Лебедзева – Крэва ў кірунку Маладзечна. На другім кіламетры аўтадарогі яна не справілася з кіраваннем і выехала на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з «Мерсэдэсам».

– ДТЗ адбылося з-за таго, што кіроўца «Сузукі» няправільна выбрала хуткасць і не ўлічыла ўмовы надвор'я, – тлумачыць інспектар.

У выніку ў машыне «Сузукі» пацярпелі кіроўца і дзесяцігадовае дзіця-пасажыр. У жанчыны – раны ад удараў. Яе не шпіталізавалі. А дзіця з чэрапна-мазгавой траўмай і ранамі шпіталізавалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі пацярпелі жанчына і пяцімесячнае дзіця

МАЛАДЗЕЧНА

27 студзеня каля паловы дзявятай вечара паміж Радашкавічамі і Алёхнавічамі здарылася аварыя, у якой пацярпелі жанчына-пасажырка і дзіця пяці з паловай месяцаў, расказалі ў ДАІ Маладзечна.

Кіроўца – жыхар Расіі – ехаў па дарозе Радашкавічы – Алёхнавічы. На першым яе кіламетры ён убачыў сустрэчную машыну. Па словах інспектара па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна Дыяны Галузы, кіроўца не ўлічыў умовы надвор'я і няправільна выбраў хуткасць. У выніку тармажэння і вывarату кола выехаў на сустрэчную паласу.

Тут ён сутыкнуўся з машынай «Фольксваген-Пасат». У аўтамабілі, акрамя кіроўцы-жыхара Алёхнавічаў, былі жанчына і дзіця пяці з паловай месяцаў. Яны атрымалі цялесныя пашкоджанні. Матэрыял праверкі – у ДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Угаворвала знаёмых пазычыць грошы, а вяртала не ўсе

АШМЯНЫ

Па дадзеных следства, ад жніўня 2019 года да снежня 2020 30-гадовая жыхарка Ашмянаў угаворвала знаёмых пазычыць ёй грошы на развіццё бізнесу і набыццё кватэры. Усяго жанчына атрымала ад сваіх знаёмых 66 850 долараў і 18 250 еўра.

Падазраваная абяцала вярнуць доўг у бліжэйшы час яшчэ і з працэнтамі, аднак прынятыя на сябе абавязацельствы не выконвала ў поўным аб'ёме, бізнес і кватэру, на якія яна брала пазыку, не набыла, а грошы патрацiла на асабістыя патрэбы.

У дачыненні да жыхаркі Ашмянаў узбудзілі крымінальную справу па частцы 4 артыкула 209 (махлярства ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса. У цяперашні час з яе ўдзелам праводзяцца следчыя дзеянні.

**Паводле Следчага камітэта.**

## На стаянцы загарэўся аўтамабіль

МЯДЗЕЛ

28 студзеня каля 11 гадзін у цэнтр аператыўнага кіравання Мядзельскага РАНС паступіла паведамленне аб загаранні легкавога аўтамабіля. У выніку пажару пашкоджаны маторны адсек аўтамабіля.

Прычына пажару высвятляецца. Меркаваная версія – механічнае разбурэнне вузлоў і дэталяў (парыў паліўнага трубаправода).

– Суседзі папрасілі звазіць іх у Мядзел у бальніцу. У мяне быў выхадны дзень, таму сабраліся і паехалі. Падвёз іх да бальніцы, з'ездзіў па сваіх справах і вярнуўся. Толькі паставіў машыну на стаянку, выйшаў з яе і пачуў нейкі воплеск. Гляджу, а з пад капоту шугае агонь. Адразу ж схапіў вогнетушыцель і прыняўся тушыць полымя. Падбеглі неабыякавыя людзі з вогнетушыцелямі ў руках і дапамаглі мне справіцца з загараннем. Вельмі ім удзячны, бо наступствы маглі быць зусім іншыя, – расказаў гаспадар.

**Паводле МНС.**



Фота pixabay.com.

Кансервы фігурант збываў за мяжу, на расійскі рынак.

# Падазраюць, што работнік харчкамбіната незаконна прадаваў у Расію кансервы

МАЛАДЗЕЧНА

**Работнікі Маладзечанскага РАУС спынілі злачынную дзейнасць службовай асобы на харчовым камбінаце.**

Аператыўнікі ўстанавілі, што 42-гадовы мінчанін, кіраўнік аднаго з аддзелаў прадпрыемства, ад красавіка да жніўня мінулага года прадаваў кансервы камбіната па заніжаных цэнах, прычыніўшы страты прадпрыемству на 270 200 рублёў.

Злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі і дзейнічаючы ў асабістых інтарэсах, мужчына ад імя харчкамбіната заключыў дагаворы на пастаўку кансерваванай прадукцыі падстаўной фірме-пакупніку, заснавальнікам якой па паперах з'яўлялася яго маці. Атрыманы такім чынам тавар фігурант збываў за мяжу, на расійскі рынак.

Злачынная схема пачала дзейнічаць пасля абрання антыкрызіснага кіраўніка камбіната. «Па выпадковасці» ім стаў прадстаўнік арганізацыі, якая належыць жонцы падазраванага.

Падазраванага звольнілі з прадпрыемства.

Па матэрыялах АБЭЗ Маладзечанскі РАСК узбудзіў крымінальную справу па частцы 3 артыкула 424 КК Рэспублікі Беларусь «Злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі». Згодна з артыкулам, за злачынства пагражае да дзесяці гадоў пазбаўлення волі са штрафам і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

## Мужчына залазіў у кватэры і дамы, краў грошы і «ювелірку»

МАЛАДЗЕЧНА

Работнікі Мінскага РУУС і абласнога УУС затрымалі 46-гадовага жыхара Маладзечанскага раёна па падазрэнні ў серыйных крадзяжах з прыватных дамоў і кватэр.

Мужчыну злавілі з доказамі злачынства, устанавілі яго дачыненне да сямі крадзяжоў у Ждановічах і Ратамцы ад 17 снежня 2020 года да 27 студзеня 2021-га. Затрыманы прыязджаў па раніцах у будныя дні, калі ўладальнікі дамоў павінны былі з'ехаць на працу. Мужчына адціскаў шклопакеты, залазіў унутр і выкрадаў выключна ювелірныя вырабы і грошы.

Днём 17 снежня ў Ратамцы затрыманы вынес з чужой кватэры каштоўнасці і некалькі наручных гадзіннікаў на суму звыш 17,6 тысячы рублёў. Ужо праз тыдзень ён пабываў у Ждановічах і абакраў пенсіянера на суму больш як чатыры тысячы. У сярэдзіне студзеня ахвярай злачынніка стала яшчэ адна сталая жыхарка Ждановічаў, якая пазбавілася маёмасці коштам больш як восем тысяч рублёў. Пры гэтым у двух апошніх выпадках дзверы жылля пацярпелых былі адкрытыя. Акрамя таго, ён пабываў яшчэ ў чатырох дамах, аднак не знайшоў там нічога каштоўнага.

Следчыя далі прававую ацэнку дзеянням затрыманага і завялі крымінальныя справы за крадзяжы, учыненыя ў буйным памеры. Аператыўнікам удалося забраць у падазраванага частку выкрадзенага, устанаўліваюцца асобы, датычныя да скупкі ювелірных вырабаў. Цяпер фігурант правяраецца на дачыненне да аналагічных злачынстваў. Раней ён прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзяжы і нядаўна вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі ў Расіі, дзе адбываў пакаранне за крадзяжы.

**Паводле БелТА.**

## На Вілейскім вадасховішчы гіне рыба. Што здарылася?

ВІЛЕЙКА

МЯДЗЕЛ

Днямі ў Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету паведамілі, што ў Вілейскім вадасховішчы, побач з паўвостравам, які рыбакі завуць Партызанскім, у прамыіне, – мёртвая рыба.

– Мы выехалі на месца. Убачылі, што сапраўды на ўказаным месцы, каля дамбы, мёртвая і паўмёртвая рыба – акуні і плоткі. Месца тое спецыфічнае. Там затока з вялікай вадой злучаецца маленькім пралівам. Праліў мелкі. Ён цалкам замерз. Рыбе, што знаходзілася там, стала не хапаць кіслароду. Такая з'ява не анамальная, а хутчэй, звычайная для зімы, – растлумачыў намеснік начальніка Мядзельскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Сяргей Малько**.

Па словах спецыяліста, такая сітуацыя толькі ў месцы каля дамбы. На ўсёй акваторыі вадасховішча падобных з'яў няма. Спецыялісты зрабілі лункі вялікія палонкі.

На месца выязджалі спецыялісты Маладзечанскай аналітычнай лабараторыі. Яны зрабілі замеры, каб вызначыць узровень кіслароду ў вадзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Правакаваў натоўп». У Маладзечне яшчэ адна крымінальная справа па падзеях 9 жніўня

**Следчы камітэт па Мінскай вобласці паведаміў, што скончыў расследаванне па крымінальнай справе за 9 жніўня. Маладзечанца абвінавачваюць у актыўным удзеле ў дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак.**

Па версіі следства, 36-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна ўвечары 9 жніўня 2020 года прыйшоў на Цэнтральную плошчу і прыняў удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Мужчына знаходзіўся ў счэпцы, крычаў лозунгі і хлопаў рукамі. У яго ў руках таксама была аўдыяпрылада, ён дэманстратыўна ўключаў музыку.

– Па справе праведзены комплекс следчых дзеянняў. Дапытаныя абвінавачаны і сведкі, праведзены вочныя стаўкі, агледжаны мабільны тэлефон. Відэазапісы, на якіх зафіксаваныя абставіны здзяйснення злачынства, таксама прагледжаныя і дададзеныя да матэрыялаў крымінальнай справы.

**На грашовыя сродкі на рахунку, а таксама на аўтамабіль абвінавачанага накладзены арышт, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці Алена Крупеніна.**

Падчас допыту мужчына расказаў, што не ведаў, чаму не пакінуў плошчу, калі пачуў папярэджанні супрацоўніка міліцыі. Аднак адзначыў, што разумеў супрацьпраўнасць дзеянняў, якія ён здзейсніў.

Следчыя кваліфікавалі дзеянні мужчыны па ч.1 арт.342 (актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і спалучаных з відавочным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады).

У адносінах да абвінавачанага прыменена мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

«Рэгіянальная газета» высветліла, што абвінавачанага завуць **Віктар Таўгень**.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



Віктар Таўгень у чорнай майцы з белым бранзалетам на плошчы 9 жніўня.

## Суд над Вадзімам Гурманам перанеслі з-за хваробы адваката

**Суд над маладзечанцам Вадзімам Гурманам, якога абвінавачваюць па двух крымінальных артыкулах за 9 жніўня, перанеслі на 5 лютага. Прычына – хвароба адваката абвінавачанага Алены Літвіновіч.**



Вадзім Гурман падчас аднаго з судовых пасяджэнняў.

### Суд адбудзецца на гэтым тыдні

29 студзеня павінна было прайсці чарговае судовае пасяджэнне, але адвакат Гурмана прыслала пісьмовае хадайніцтва. У ім Літвіновіч прасіла адкласці разбор па прычыне яе хваробы. Суддзя **Вольга Дубовік** перанесла пасяджэнне на 5 лютага. Гурмана этапавалі ў Жодзінскі СІЗА да суда.

У судовым разборы засталіся спрэчкі бакоў, у якіх дзяржаўны абвінаваўца павінны адзначыць, што за пакаранне патрабуе абвінавачанне, і апошняе слова абвінавачанага Гурмана.

### Што адбылося на судзе раней

Суд над Гурманам пачаўся на пачатку студзеня. Маладзечанца абвінавачваюць па двух крымінальных артыкулах: за падбухторванне натоўпу на актыўныя дзеянні супраць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў (арт. 342) і за пагрозы гвалтам супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС (арт. 364).

Пацярпелыя – супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС – **Андрэй Нехвядовіч**, **Павел Радзько**, **Дзмітры Смаленскі**, **Павел Сіняўскі**, **Аляксандр Цярэнцьеў**, **Вадзім Лазар**. Смаленскі, Сіняўскі, Цярэнцьеў і Лазар заявілі позвы аб грашовай кампенсацыі маральнай шкоды да Гурмана.

Гурман падчас судовага разгляду заявіў аб збіцці падчас затрымання, ва ўнутраным дворыку аддзялення міліцыі ў жніўні.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## У Беларусі прапануюць змяніць Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы

**У Беларусі падрыхтаваны праект закона аб унясенні змяненняў у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэкс, паведамляе Office Life.**

Улада прапаноўвае ўзмацніць пакаранне за «незаконны збор, апрацоўку, захоўванне, распаўсюджванне інфармацыі аб прыватным жыцці ці персанальных дадзеных». Гэта значыць, што артыкул 179 праекта змяненняў у Крымінальны кодэкс прадугледжвае пакаранне за распаўсюджванне інфармацыі аб прыватным жыцці, што складае асабістую ці сямейную таямніцу, і персанальных дадзеных, якое здзейснілі з выкарыстаннем спецыяльных тэхнічных сродкаў, прызначаных для негалоснага атрымання інфармацыі, альбо з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі ці глабальнай камп'ютарнай сеткі інтэрнэт.

Пакаранне закране асобы, якім такая інфармацыя стала вядомая ў сувязі з выкананнем сваіх прафесійных абавязкаў і пацягнула прычыненне шкоды правам, свабодзе і законным інтарэсам пацярпелага. За гэта прапануюць караць абмежаваннем волі на тэрмін да трох год са штрафам альбо пазбаўленнем волі на той жа тэрмін са штрафам.

Незаконныя збор, апрацоўка, захоўванне, распаўсюджванне інфармацыі аб прыватным жыцці асобы ці яго блізкіх, а таксам іх маёмасці ў сувязі з яго службовай дзейнасцю ці выкананнем грамадскага абавязку, што пацягнула прычыненне шкоды правам, свабодзе і законным інтарэсам, прапануюць караць пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю са штрафам. Абвінавачаных могуць пакараць абмежаваннем волі да пяці год са штрафам ці пазбавіць волі на той жа тэрмін са штрафам.

Праект змяненняў у Крымінальны кодэкс прапануе ўзмацніць пакаранне за замах на жыццё супрацоўніка сілавых органаў – артыкул 362. Такія дзеянні прапаноўваюць караць пазбаўленнем волі ад 15 да 25 год ці пажыццёвым пазбаўленнем волі.

У Крымінальны кодэкс прапаноўваюць увесці артыкул 369-1 «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». У ім, у прыватнасці, кажуць, што «распаўсюджванне інфармацыі ў непрыстойнай форме, якая выказвае яўную непавагу да беларускага народа і Рэспублікі Беларусь, якое здзейснілі ў публічным выступленні, альбо ў друкаваным ці публічным творы, альбо ў сродках масавай інфармацыі, альбо ў інфармацыі, размешчанай у глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт, караецца штрафам, ці выпраўленчымі працамі да двух год, ці арыштам, ці абмежаваннем волі да двух год, ці пазбаўленнем волі на той жа тэрмін».

Наўмыснае распаўсюджванне ў любой форме заведама лжывых сведчанняў аб палітычным, эканамічным, сацыяльным, ваенным ці міжнародным становішчы Рэспублікі Беларусь, накіраванае на прычыненне шкоды нацыянальный бяспецы Рэспублікі Беларусь, прапаноўваюць караць арыштам ці пазбаўленнем волі на тэрмін да трох год.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ВІНШАВАНКА

**Міхаілу Фёдаравічу і Алене Іванаўне ДУЧКО з Маладзечна**

Віншуем вас з цудоўнай падзеяй у вашым жыцці – з залатым вяселлем, са шчаслівым 50-годдзем вашай сям'і!

Няхай ваш дом застаецца ўтульным і цёплым, няхай каханне будзе да канца узаемным і шчырым, няхай у доме пануюць дастатак і дабрабыт.

Жадаем заўсёды заставацца адно для аднаго сапраўдным золатам!

**Сябры.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## СПАЧУВАННЕ

Выказваем шчырае спачуванне **Людміле Уладзіміраўне Доўнар** з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці любімага брата **Анатолія**. Няхай гэтыя словы будуць душэўнай падтрымкай і хоць крыху зменшаць боль і гора ад незаменнай страты блізкага чалавека.

**Суседзі з кватэры 29.**

• Іншамарку ў любым стане, можна не на ходу. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто для сябе з перааформленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на ходу для сябе з перааформленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Валожыне, сталярны цэх, гараж. Т. (8-044) 7722658.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, цэнтр, 71 кв. м. Т. (8-044) 7626113.

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул. Ф. Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх. (47,5 / 30,9 / 6,2). Т. (8-029) 8530568, (8-033) 3524122.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• 2-пакаёвая кватэра (38,1 / 27,3 / 5) у а.г. Беразінскае Маладзечанскага раёна (15 км ад Маладзечна, 80 км ад МКАД Мінска), на першым паверсе 2-павярховага цаглянага дома. Выдатны рамонт. Развітая інфраструктура. Добрае транспартнае забеспячэнне. Торг. Т. (8-029) 3682051, Галіна.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, ацёл у лютым.Т (8-029) 2744479.*

• Парасяты свойскія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.

• Шчаня ўсходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Жарабца. Т. (8-029) 5083838.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*



**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ад 1 студзеня за свае аўто мы павінны плаціць транспартны падатак. Аднак ёсць выключэнні.

# Што такое транспартны падатак. Як і каму яго трэба плаціць

**Ад 1 студзеня ў Беларусі ўвялі новы рэспубліканскі падатак – транспартны.**

Ён прыйшоў на змену дзяржпошліне за выдачу дазволу на допуск да ўдзелу транспартных сродкаў у дарожным руху, якую аўтаўладальнікі павінны былі выплачваць перад праходжаннем тэхагляду.

Плацельшчыкамі транспартнага падатку з'яўляюцца арганізацыі і фізічныя асобы, у тым ліку ІП. Падатак плаціць за транспартныя сродкі, якія зарэгістраваныя за грамадзянамі ў ДАІ МУС.

Калі машыну ўзялі ў фінансавую арэнду (лізінг), плацельшчыкам транспартнага падатку прызнаецца лізінгаатрымальнік.

### Хто не з'яўляецца плацельшчыкам падатку

• Арганізацыі-перавозчыкі, уключаныя ў пералік аўтамабільных перавозчыкаў, абавязаных выконваць перавозкі транспартам агульнага карыстання;

• войскі, вайсковыя фарміраванні;

• рэспубліканскія органы дзяржкіравання, іншыя дзяржорганы, суды, органы пракуратуры, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы.

### За які транспарт не спаганяецца падатак

• Выпушчаны не пазней за 1991 год або звесткі пра год выпуску якога адсутнічаюць;

• за транспарт, які выкарыстоўваюць для аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку хуткай медыцынскай дапамогі;

• транспарт, які выбыў ва ўласніка (уладальніка) у выніку супрацьпраўных дзеянняў трэціх асоб.

• Да 31 снежня 2025 года не абкладаюцца транспартным падаткам электрамабілі катэгорыі M1, M1G.

Таксама вызваляюцца ад падатку аўто, знятыя з уліку ў ДАІ да 1 ліпеня 2021, і тыя, у дачыненні да якіх яшчэ дзейнічае атрыманы дазвол на допуск да ўдзелу ў дарожным руху. Але, як толькі скончыцца тэрмін дзеяння дазволу, ад першага чысла наступнага месяца трэба будзе плаціць падатак.

### Налічэнне і выплата падатку фізічнымі асобамі

Фізічным асобам транспартны падатак будуць налічваць падатковыя органы на падставе звестак, пададзеных ім дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі. Падатак будуць разлічваць па стаўках згодна з пунктам 2 дадатку 27 да Падатковага кодэкса. Пры адсутнасці звестак аб дазволенай максімальнай масе аўтамабіля, стаўкі транспартнага падатку ўстановяць у памеры мінімальнай стаўкі такога падатку для адпаведнага тыпу машыны.

Калі аўтамабіль зарэгістраваны за ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, інвалідам першай або другой групы, асобай, якая дасягнула пенсійнага ўзросту, стаўкі транспартнага падатку прымяняюцца ў памеры 50 працэнтаў ад устаноўленай. Калі аўтамабіль зарэгістраваны за інвалідам трэцяй групы, стаўкі транспартнага падатку прымяняюцца ў памеры 75 працэнтаў.

Штогод да 1 верасня фізічным асобам будуць уручаць паведамленне з паказанай у ім сумай вылічанага падатку за мінулы год. Выплаціць падатак трэба будзе не пазней за 15 лістапада.

У дачыненні да транспартнага падатку за 2021 год прадугледжаны адмысловы парадак яго выплаты фізічнымі асобамі, якія не атрымалі на 1 студзеня 2021 года дазвол на допуск да ўдзелу ў дарожным руху. Такія плацельшчыкі абавязаныя будуць выплаціць не пазней як 15 снежня 2021 года авансавы плацеж у памеры адной базавай велічыні. Ад 1 студзеня базавая велічыня – 29 рублёў. За прычэп, прычэп-караван, матацыкл авансавы плацеж складзе 20 рублёў. Даплату падатку за 2021 год трэба будзе атрымаць не пазней за 15 лістапада 2022 года.

### Налічэнне і выплата падатку арганізацыямі

Плацельшчыкі-арганізацыі разлічваюць транспартны падатак за каляндарны год. Разлічваюць зыходзячы з колькасці аўтамабіляў і стаўкі падатку. Для арганізацый гадавыя стаўкі замацаваныя ў пункце 1 дадатку 27 да Падатковага кодэкса. Памер стаўкі залежыць:

– ад віду аўто (грузавы аўтамабіль, легкавы);

– ад дазволенай максімальнай масы.

Для аўтобусаў стаўкі размежаваныя ў залежнасці ад колькасці пасадачных месцаў.

Калі ў арганізацыі на працягу года з'яўляецца новы аўтамабіль, ёй варта палічыць падатак ад першага чысла месяца, наступнага за месяцам, у якім зарэгістравалі аўто. Падлік падатку спыняецца ад першага чысла месяца, наступнага за месяцам, у якім машына знятая з уліку.

Арганізацыі павінны падаваць у падатковы орган дэкларацыю па транспартным падатку не пазней за 20 лютага года, які ідзе за мінулым каляндарным годам.

За першы-трэці кварталы каляндарнага года прадугледжаная выплата арганізацыямі авансавых плацяжоў:

за першы квартал – у памеры 1/4 гадавой сумы падатку, вылічанай зыходзячы з наяўнасці аўто на 1 студзеня справаздачнага года. Выплату трэба атрымаць не пазней за 22 сакавіка бягучага года;

2) за другі квартал – у памеры 1/4 гадавой сумы падатку за справаздачны год, вылічанай зыходзячы з наяўнасці аўто на 1 красавіка справаздачнага года. Аванс трэба заплаціць не пазней за 22 чэрвеня бягучага года;

3) за трэці квартал – у памеры 1/4 сумы падатку за справаздачны год, вылічанай зыходзячы з наяўнасці аўто на 1 ліпеня справаздачнага года. Заплаціць трэба не пазней за 22 верасня бягучага года.

Даплаціць падатак трэба не пазней за 22 лютага наступнага каляндарнага года. Калі сумы авансавых плацяжоў атрымаліся больш за вылічаны падатак, іх павінны вярнуць або залічыць у наступны.

**Інспекцыя па падатках і зборах Маладзечанскага раёна.**

## У выканкаме – новы начальнік аддзела культуры, ідэалогіі і па справах моладзі

**ВІЛЕЙКА**

Ад 3 лютага аддзел узначаліць **Жанна Старадуб**, расказалі карэспандэнту ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

Да прызначэння Жанна Уладзіміраўна некалькі год працавала ў аддзеле, была намеснікам начальніка.

Нагадаем, што ранейшы кіраўнік аддзела культуры, ідэалогіі і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама **Сяргей Паўлоўскі** сышоў з пасады ў канцы мінулага года.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Тэрытарыяльным цэнтрам сацабслугоўвання цяпер кіруе Вольга Буслаўская

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта нам расказалі ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама.

На чале цэнтра Вольга Станіславаўна ад сярэдзіны студзеня. Раней яна таксама працавала ў гэтай установе. Была спецыялістам па сацыяльнай рабоце аддзялення першаснага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання. Мае вышэйшую катэгорыю.

Нагадаем, што раней цэнтрам кіравала **Людміла Сляпцова**. Ад пачатку студзеня яна стала намеснікам старшыні Вілейскага райвыканкама, замяніла на пасадзе **Святлану Дзяругу**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Любанскай школе – новы дырэктар

**ВІЛЕЙКА**

Ад 27 студзеня ў Любанскай сярэдняй школе на пасадзе дырэктара будзе працаваць **Алена Рубан**.

Як расказала карэспандэнту галоўны спецыяліст Вілейскага аддзела адукацыі, спорту і турызму **Алена Рослік**, раней Алена Генадзьеўна была намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце. Педагог мае вышэйшую катэгорыю, па адукацыі – настаўнік геаграфіі.

– Алена Генадзьеўна – добры кіраўнік, мае вялікі досвед у адукацыі, – адзначыла галоўны спецыяліст аддзела.

Ранейшы кіраўнік школы, **Васіль Кісель**, пайшоў на пенсію.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяржнагляд праверыў лягасы

Падчас праверак у 2020 годзе Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці знайшоў парушэнні ў Валожынскім, Крупскім і Любанскім лягасах. Зафіксавалі расходаванне бюджэтных сродкаў з парушэннем заканадаўства.

У Крупскім лягасе ў жніўні-снежні 2017 года з'явіліся выдаткі, незапланаваныя каштарысам, у Любанскім лягасе некаторыя работы выконвалі без заключэння Дзяржбудэкспертызы на праектна-каштарысную дакументацыю. У Валожынскім лягасе пры планаванні на 2018-2019 гады не былі абгрунтаваныя адпаведнымі разлікамі выдаткі на вядзенне лясной гаспадаркі.

Устанавілі, што ў Валожынскім лягасе неабгрунтавана плацілі прэмію па лесаварошчванні за лістапад і снежань 2018 года з-за скажэння лягасам працэнта прыжывальнасці дрэў. Таксама ў гэтым лягасе сказілі ведамасную і статыстычную справаздачнасць з-за неабгрунтаванага ўключэння шасці гектараў плошчы ў справаздачу аб правядзенні ў 2020 годзе высечак маладняку. Таксама ў выкананне плана лесакультурных работ неабгрунтавана ўключылі шэсць участкаў (12 гектараў).

Лягасы дапусцілі парушэнні пры аглядзе лесасек, рэалізацыі дубовых дроў. У Крупскім і Валожынскім раёнах знайшлі няўлічаную драўніну. Былі разыходжанні ў аб'ёмах фактычна нарыхтаванай і выпісанай драўніны.

У Валожынскім лягасе не рэгістравалі пазабіржавыя здзелкі па продажы лесаматэрыялаў, несвоечасова пералічваліся ў бюджэт грошы за здадзеную ў арэнду нерухомую маёмасць, ладзілі незаконныя высечкі.

Усяго па выніках праверак і маніторынгаў лесагаспадарчых устаноў Міншчыны ў 2020 годзе спагналі (аднавілі, кампенсавалі) звыш пацёра мільёна рублёў, вінаватых прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці, 61 работніка – да дысцыплінарнай.

Сёлета Дзяржнагляд працягне правяраць лягасы.

**Упраўленне кантролю аграпрамысловага комплексу Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

По словах медыкаў СААЗ, сістэма аховы здароўя павінна забяспечыць у пандэмію якасную клінічную дапамогу, падтрымку медыкаў і шмат чаго яшчэ.

# Больш за два мільёны памерлых і незапланаваныя цяжарнасці

## Медыкі расказалі журналістам пра COVID-19

**29 студзеня ў рамках праекта «Салідарнасць у імя здароўя» пры падтрымцы Еўрасаюза Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) ладзіла вебінар для журналістаў, прысвечаны COVID-19. Нашы карэспандэнты ўдзельнічалі ў вебінары. Прапануем вам некаторыя вытрымкі з выступленняў экспертаў.**

### На 28 студзеня – памерлых ад COVID-19 больш, чым жыхароў у Мінску

Спецыяльны прадстаўнік рэгіянальнага дырэктара СААЗ у Беларусі доктар **Масурд Дара** расказаў пра тое, што ўяўляе сабой вірус, назваў лічбы захварэлых і памерлых у свеце.

Мікраарганізм, які выклікае COVID-19, правільна называецца SARS-CoV-2. Гэта адналанцуговы РНК-вірус, у абалонцы, з адросткамі, якія нагадваюць сонечную карону. Адсюль і назва.

На словах эксперта, на 28 студзеня па ўсім свеце налічвалася 100 200 107 пацверджаных выпадкаў хваробы, уключаючы 2 158 761 смерць.

Краіны з найбольшай сукупнай колькасцю захворвання – ЗША, Індыя, Бразілія, Расія, Вялікабрытанія. У іх найбольшая колькасць смерцяў.

### Што павінны рабіць мы, а што – сістэма аховы здароўя

Санітарныя мерапрыемствы, агучаныя экспертам большасці з нас. Гэта

- гігіена рук;
- рэспіраторная гігіена;
- фізічная дыстанцыяванне;
- скарачэнне перасоўванняў, аддаленая праца, лічбавыя зносіны;
- рэгулярная ачыстка і дэзынфекцыя навакольнага асяроддзя;
- ранняе выяўленне хворых.

Як павінна рэагаваць сістэма аховы здароўя на выклікі COVID-19? Масурд Дара адзначае наступныя пункты:

- надзейная сістэма нагляду;
- развітая лабараторная сетка, стратэгіі хуткага і эфектыўнага тэставання;
- абарона і падтрымка медыкаў, ахова іх псіхічнага здароўя;
- якасная клінічная дапамога,назіранне дома, інтэнсіўная тэрапія;
- вакцынацыя;
- камунікацыі і абазнанасць грамадскасці;
- вялікая ўвага да фактараў, якія абумоўліваюць высокую смяротнасць;
- падрыхтаванасць да наступнай або спадарожнай пандэміі.

### Усе вірусы мяняюцца з часам

Па словах спецыяліста, для вірусаў з'яўляецца нормай мяняцца з часам шляхам мутацыі. Таму варта чакаць новых варыянтаў. Зменены вірус называецца штамам. Мутацыі могуць прывесці да больш цяжкай формы хваробы, паўплываць на эфектыўнасць дыягностыкі, лячэння і вакцын.

Зафіксавалі тры новыя штамы каронавіруса: першы заўважылі ў верасні 2020 года ў Даніі, другі – у снежні 2020 – у Вялікабрытаніі, трэці – у ЮАР таксама ў снежні 2020.

### Як уплывае каронавірус на псіхіку, жаночае здароўе і планаванне сям'і

Па словах доктара, каардынатара праграм па грамадскай ахове здароўя офіса СААЗ у Беларусі **Валянціна Русовіча,** каронавірус уплывае на псіхічнае здароўе людзей. Уплыў праяўляецца ў наступным:

- страх захварэць і памерці;
- страх заразіцца падчас звароту да дактароў і як вынік – людзі не звяртаюцца да медыкаў;
- адчуванне бездапаможнасці ў абароне блізкіх і страх іх страціць;
- успрыманне сімптомаў іншых хвароб за сімптомы каронавіруса;
- павелічэнне ўжывання алкаголю, псіхаактыўных рэчываў.

**Як абараніць сваё псіхічнае здароўе?**

- Прызнаць негатыўныя эмоцыі;
- быць на сувязі з сябрамі і сям'ёй;
- падтрымліваць здаровы лад жыцця – правільнае харчаванне, фізічныя практыкаванні, адмовіцца ад курэння і алкаголю ці хаця б скараціць іх ужыванне;
- атрымліваць інфармацыю пра дзеянні і меры засцярогі з надзейных крыніц, на час скараціць чытанне кепскіх навін.

Доктар **Мэры Элунед Гафілд** з Дэпартамента сэксуальнага і рэпрадуктыўнага здароўя і даследаванняў СААЗ адзначыла, што не варта зніжаць узровень кансультавання па пытаннях цяжарнасці і планавання сям'і, а па магчымасці перавесці кансультацыі ў анлайн-фармат.

Па яе словах, у пандэмію на 10 працэнтаў знізіўся ахоп паслуг для жанчын падчас цяжарнасці і для нованароджаных. Па ацэнках СААЗ, з пандэміяй у статыстыку дадалося 28 тысяч мацярынскіх смерцяў і 168 тысяч смерцяў немаўлят.

З'явіліся парушэнні ў паслугах па планаванні сям'і. Па ацэнках СААЗ, гэта праявілася ў мільёнах незапланаваных цяжарнасцяў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дэпутат Кананові́ч адчыталася перад выбаршчыкамі

**Дэпутат ад Маладзечанскай гарадской акругі №72 у Нацыянальным сходзе Людміла Кананові́ч апублікавала справаздачу па сваёй дзейнасці за два гады. «Рэгіянальная газета» коратка пераказвае галоўныя моманты са справаздачы.**

### Заканатворчая дзейнасць

Кананові́ч удзельнічала ў 22 пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, у 11 пасяджэннях Савета Палаты прадстаўнікоў. Яна выступала тры разы на пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў. Асноўныя пытанні – сфера сацыяльнай абароны і занятасці, працоўныя адносіны і пенсійнае забеспячэнне.

### Што зрабіла дэпутат для выбарчай акругі

У справаздачы дэпутат адзначыла станоўчае рашэнне па пытаннях будаўніцтва дзіцячага сада-пачатковай школы ў мікраараёне Усходні, арганізацыю прац па рэканструкцыі футбольнага поля ў ДЮСШ №4, работы па рамонце цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча і іншыя.

Кананові́ч правяла 39 сустрэч у працоўных калектывах, арганізавала 11 прыёмаў грамадзян і 8 тэлефонных ліній.

У справаздачы з'яўляецца інфармацыя пра жнівень 2020 года. Пазначаецца, што яна ўдзельнічала ў дзвюх сустрэчах з членамі ініцыятыўнай групы ў Маладзечне па «пытаннях меркаваных парушэнняў падчас выбарчай кампаніі». Дэпутат адзначае, што адказала на пытанні рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі падчас прэс-цэнтра пра сітуацыю ў раёне і падзеі, што адбываліся ў краіне пасля выбараў.

**«Рэгіянальную газету» на гэту сустрэчу не запрасілі – аб гэтым падрабязна пісала наша выданне.**



Каліна Капуцкая (злева) і Людміла Кананові́ч на мітынгу ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі.

Дэпутат выступала са зваротам да жыхароў рэгіёна на мясцовым радыё і на старонках раённай газеты. Там яна казала пра «важнасць канструктыўнага міхнага дыялогу ва ўмовах унутрыпалітычнай абстаноўкі ў імя міру і спакою на нашай зямлі і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні».

Кананові́ч сустракалася з пракурорам Маладзечанскага раёна, начальнікам Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта і начальнікам РАУС. З імі яна абмяркоўвала пытанні ўзаемадзеяння пры разглядзе зваротаў грамадзян.

### Грамадска-палітычная дзейнасць

Дэпутат у справаздачы напісала, што ўдзельнічала ў грамадска-палітычных і культурна-масавых мерапрыемствах, акцыях і ў мерапрыемствах у падтрымку міру і стабільнасці ў Беларусі. Людмілу Кананові́ч нашы журналісты бачылі на праўладным мітынгу ў жніўні 2020 года. Там Людміла Мікалаеўна была разам са старшынёй Маладзечанскага райвыканкама **Юрыем Горлавым**, членам Савета Рэспублікі **Калінай Капуцкай** і намеснікам старшыні райвыканкама **Алесяй Лукоўскай**.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# «Баязлівасць бацькоў сёння – рабства дзяцей заўтра». Маладзечанцаў заклікаюць падпісаць ліст супраць санкцый

**У розных арганізацыях Маладзечна работнікаў прафсаюза заклікаюць падпісаць ліст супраць санкцый Еўрасаюза. Паводле тэксту ліста, на Беларусь незаконна ціснуць. І ўдзельнікі прафсаюзаў звяртаюцца да міжнароднага прафсаюзнага руху. Просяць паўплываць на свае ўрады і падтрымаць іх.**

### Былы педагог: Вам далі справаздачу, куды і як патрацілі народныя грошы?

Віляйчанка, былы педагог і «Асоба года-2020» па версіі «Рэгіянальнай газеты» **Вольга Шостак** пракаментавала прафсаюзныя лісты:

«Прымушаюць падпісаць прафсаюзны ліст аб незаконным ціску ЕС на краіну ў выглядзе санкцый? На вас цісн уць, а як тым беларусам, якіх забілі ці катавалі? Больш за 1800 пададзеных заяў у органы з нагоды збіцця і катаванняў – і няма ніводнай справы супраць сілавікоў. Больш за тое, супраць многіх пацярпелых распачалі крымінальныя справы і пасадзілі!

Вы баіцеся за сваю сям'ю, а як тым сем'ям, у якіх забілі родных? Як тым сем'ям, родныя якіх сядзяць у турме, а гэта каля 1000 чалавек? Як тым дзецям і бацькам, у чые сем'і ўрываюцца з пераструсам у любы час дня і ночы?

Вам страшна адмовіцца, а як тым 32 тысячам беларусаў, якія прайшлі праз рэпрэсіі з-за выбараў? Вы баіцеся, што вас звольняць, а як тым, каго ўжо звольнілі, або тым дзясяткам тысяч, каму давялося бегчы са сваёй радзімы, таму што тут іх жыццю, свабодзе пагражае небяспека?

А хто прымушае падпісаць ліст, цісне і запалохвае? Тыя, хто быў у выбарчых камісіях, зрабіў белае чорным і на чыіх руках кроў забітых, збітых, пакалечаных беларусаў, слёзы дзяцей і дарослых! Баязлівасць бацькоў сёння – рабства дзяцей заўтра!

А цяпер наконт эканамічных страт. Палічыце, колькі дапамогі можна было аказаць рабочым і іншым за тыя 350 мільёнаў долараў, якія былі выдаткаваныя для адключэння інтэрнэту па ўсёй краіне пасля выбараў? Колькі вашых грошай было выдаткавана для пастаяннага ўвозу ўзброеных сіл, тэхнікі і прымянення зброі ў Мінску і іншых гарадах для знішчэння іншадумства? Колькі грошай выдаткавалі на такія праекты, як флагшток у Гомелі, парад падчас эпідэміі, закупка транспарту для сілавікоў і іншыя?

Можа хопіць апраўдваць гвалт і размяньваць чалавечыя жыцці і зламаныя лёсы беларусаў на ўмоўныя грошы? Жыццё – адно! Ніхто не мае права на гвалт у дачыненні да чалавека і яго сям'і»

### Праваабаронца: «Непадпісантам» трэба рыхтавацца да змагання за свае правы. У тым ліку за права на працу

Мы папрасілі пракаментаваць з'яву праваабаронцу **Алега Мацкевіча**.

**Што рабіць, калі прымушаюць падпісаць? Як непадпісанне можа адбіцца на працы?**

«Ніхто не можа быць прымушаны да выказвання сваіх перакананняў або адмовы ад іх» – так гучыць адзін з пастулатаў, замацаваных Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Калі падпісанне падобнага ліста разыходзіцца з унутраным перакананнем грамадзяніна – незалежна ад таго, ён член прафсаюза ці не, – гэта можна не рабіць. Іншая справа, што падпісаць паперу могуць настойліва «папрасіць». Выбар у такім выпадку невялікі – або насуперак свайму перакананню зрабіць гэта, або адмовіцца.

Калі разважаць з пункту гледжання законаў, непадпісанне адкрытага ліста не можа мець абсалютна ніякіх наступстваў. Калі ж браць пад увагу, што ў нашай дзяржаве часам бывае «не до законов», «непадпісантам» трэба рыхтавацца да змагання за свае правы, у тым ліку за права на працу.

**Якія правы гарантуюць, што чалавек можа быць свабодным у меркаваннях і пазіцыях?**

Права адмовіцца ад падпісання падобнай паперы замацаванае ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкул 33: «Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне. Ніхто не можа быць прымушаны да выказвання сваіх перакананняў або адмовы ад іх».

**Чым увогуле павінны займацца прафсаюз?**

Калі разглядаць гэта пытанне з пункту гледжання паўнамоцтваў прафесійных саюзаў, то гэта кола досыць шырокае і ўключае ў сябе абарону працоўных, сацыяльна-эканамічных правоў і інтарэсаў грамадзян. У цэлым ініцыятыва па падпісанні адкрытага ліста не з'яўляецца супрацыпраўнай і не супярэчыць заканадаўству.

Але ўлічваючы ўсе абставіны і кантэкст цяперашніх падзей, ёсць пэўныя і не безгрунтоўныя перасцярогі, што выкананне ініцыятывы будзе суправаджацца масавым парушэннем канстытуцыйных правоў грамадзян.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews @rh.by
(8-033) 66-719-77

# Не чарсцвелі месяц, ішлі на экспарт прадаваліся ў Вільні

## Прыгадваем гісторыю знакамітых смаргонскіх абаранкаў

СМАРГОНЬ

**Пачатак 20 стагоддзя… Па Віленскім шляху са Смаргоні едуць высокія вазы, накрытыя брызентам. Ад вазоў ідзе духмяны пах… Ведаеце, што вязуць смаргонцы? На продаж у Вільню едуць знакамітыя смаргонскія абаранкі.**

Што памятаюць пра некалі брэндавы прадукт сучасныя жыхары Смаргоні? Як абаранчачную справу прыгадвалі жанчыны, што працавалі на пякарні? І ці праўда, што Смаргонь – радзіма абаранкаў. Пра гэта – у нашым матэрыяле


Продаж абаранкаў і пернікаў на кірмашы «Казюкі» ў Вільні. 1935 г.

Фота з Вікіпедыі.

### Адкуль слова «абаранак»

Слова «абаранак» паходзіць ад дзеяслова «абварыць». Па-польску гучыць як «obwarzanek». У беларускай мове назва старадаўняга ласунку страціла «в». І атрымалася – «абаранкі».

Абаранчачная справа на мяжы 19-20 стагоддзяў была папулярная ў Смаргоні, і шмат хто ёй займаўся. Сярод вядомых майстроў згадваюць **Янчуковічаў**, **Альхімовічаў**, **Вайцяхоўскіх**, **Чаховічаў**, **Хацілоўскіх**, **Вялязаў**, **Страшынскіх**, **Руткоўскіх**, **Русецкіх**, **Александровічаў**, **Казлоўскіх**, **Завадскіх**, **Рубіновічаў**.

### Абаранкі ляцелі з-пад рук, як мушкі… Успаміны абаранчачніцы

У 1997 годзе смаргонская абаранчачніца-калястольніца **Кацярына Мінькоўская** падзялілася сваімі ўспамінамі з карэспандэнтам газеты «Светлы шлях» **Юрыем Янушкевічам**. Тады жанчына расказала, што ў Смаргоні ў 1930-я гады было некалькі пякарняў, дзе гатавалі абаранкі. Згадала пякарню **Янчуковіча** на вуліцы Новай (цяпер Балыша). Адзначыла, што абаранкі пяклі ў далёкія Гдыню, Варшаву, Гданьск.

Пякарня складалася з двух аддзяленняў: адзін пакой быў адведзены для захоўвання мукі, а ў другім мясілі цеста і выпякалі абаранкі ў печы, якая палілася выключна альховымі дровамі.

Па словах жанчыны, праца абаранчачніц была нялёгкая. А плацілі за яе не асабліва шмат: за дзень жанчыне, што стаяла каля печы, – два злотыя, а што працавалі каля стала – паўтара. У 1930-х за адзін злоты можна было набыць кілаграм масла, за два – кілаграм салёнага сала або кілбасы.

Тэхналогію прыгатавання абаранкаў жанчына апісвала так:

– Трэба подчынку ведаць, колькі драждэй пакласці. І цеста адразу не месіцца. Спачатку замешваецца подчынка, яна стаіць пэўны час. Пасля замешваецца цеста. Потым бярэцца частка подчынкі і частка цеста. І ўсё гэта перамешваецца. І ўжо з гэтага цеста качаюцца абаранкі. Спачатку цеста раскачвалі ў жгуты. Потым скочвалі такі жгут у некалькі разоў і, абкруцішы яго вакол пальца, адшчыпвалі. Абаранкі ляцелі з-пад рук, як мушкі…

Па словах Кацярыны Мінькоўскай, суадносіны прадуктаў для прыгатавання абаранкаў наступныя: на пяць пудоў мукі бярэцца 250-300 грамаў драждэй і шэсць літраў вады.

Звычайна ў пякарні было чатыры жанчыны. Працавалі ад дзвюх гадзін ночы да дзесяці вечара, у дзве змены. Дзве жанчыны стаялі каля стала, адна – каля печы, адна – каля вару. Перш чым пячы абаранкі, іх варылі. Абваранае цеста захоўвала больш вільгаці, абаранкі доўга не чарсцвелі. Пры варцы ў кіпень дадавалі крыху мёду, каб яны блішчэлі. Дробныя абаранкі рабілі на адзін, на два і на тры пальцы.

Печ для выпечкі рабілі спецыяльную. Яна была больш падобная да пліты, але мела нешта і ад рускай печы. З аднаго боку гэтай печы ставілі чыгун з вадой. Зграбалі са стала ў шуфлік абаранкі і высыпалі іх у чыгун. Каб абаранкі не пераварыліся, трэба было ўвесь час памешваць іх. Праз хвілін 15, калі абаранкі пачыналі ружавець, іх вымалі з чыгуна, клалі на шырокую лапату і ставілі ў печ, каб яны абсохлі. У прамежку паміж чыгуном і лапатай, на якой сушыліся абаранкі, клалі тры палены дроў. Іх запальвалі, каб пячы ўжо абвараныя кольцы з цеста. Вынятыя з печы падсохлыя абаранкі раскладалі на вузкай і доўгай драўлянай лінейцы, якую засоўвалі ў печ.

Гатовыя абаранкі нанізвалі на шнуркі па 14-16 штук, вязанкі складалі ў кашы з лазы. Абаранкаў напякалі цэлыя скрынкі, а потым везлі прадаваць на базары па ўсім рэгіёне. Напрыклад, у панядзелак ехалі гандляваць у Астравец і Лебедзева, у аўтарак – у Солы. У сераду прадавалі выпечку ў Смаргоні, у чацвер – у Ашмянах.

Калі трэба было ехаць на базар, печыва пакавалі ў звычайныя мяхі ад мукі, якія папярэдне добра выбівалі. Вазы з абаранкамі накладалі высокія і накрывалі брызентам.

– Бывала, бліжэй пад вясну, павязуць мужчыны на санях абаранкі на продаж у Вільню. Пакуль прададуць, то і снег ужо растане. І каб яны вярнуліся назад, трэба было пасылаць у Вільню фурманкі.

### Абаранкі – сямейны бізнес Альхімовічаў

Часам «абаранчачны» бізнес быў сямейным. У 2009 годзе карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» **Святлана Станкевіч** пагутарыла са смаргонскай **Валянцінай Булавай** – жанчынай, сям'я якой у 1930-х гадах валодала адной з пякарняў абаранкаў у Смаргоні. Вось што расказала тады спадарыня Валянціна:

– Сваю пякарню мы адкрылі ў першай палове 1920-х гадоў, калі вярнуліся з Казані, дзе наша сям'я хавалася ад вайны. Хата была спаленая, як і ўвесь горад, таму давялося жыць у склепе, пакуль тата будаваў першую палову хаты.

У Смаргоні на той час была развітая вытворчасць абаранкаў. Мая маці, **Алена Станіславаўна Альхімовіч**, і ўзялася за гэту справу. У пабудаванай палове хаты і жылі, і пяклі абаранкі. Але па загадзе санстанцыі былі вымушаныя перайсці жыць у невялічкую хату праз дарогу, дзе ўсе спалі на падлозе, нават сабачка спаў разам з намі. Так і туліліся, пакуль не зрабілі рамонт у пабудаванай палове хаты. Сцены пафарбавалі алейнай фарбай – усё зрабілі па загадзе санстанцыі.

Там мы адкрылі сваю вытворчасць. Я мела 15-16 год, калі пачала дапамагаць у пякарні. Нас было тры дачкі – **Жэня**, **Іра** і **Валя**. Мы працавалі з маці. Калі маці ехала на базар, наймалі рабочых. З працай на той час было цяжка.

Маці наймала яўрэяў, якія вазамі прывозілі муку, па дзесяць мяхоў. Гаспадары крамы запісвалі ў кнігу: «Узяла столькі-та мукі». Мы пячом абаранкі, маці прадае, грошы аддаюцца за муку, атрымліваем наступны воз, запіс у кнізе, зноў пячом, прадаём. Вось такі кругазварот. Самі мы на абаранкі не надта каб і глядзелі. Усіх частавалі, а самі за імі не гналіся.

Рэцэпт просты – дрожджы, мука і вада. На ноч рабілася рошчына. У гадзін пяць-шэсць раніцы прыходзілі работнікі і пачыналі разводзіць цеста. У дзень расходаваўся мех мукі. Мяне маці не вучыла, я проста назірала. Працаваць было цяжка – усю працу выконвалі жанчыны ўручную.

Абаранкі былі розных памераў – на адзін палец, на два. Большага памеру пякліся па іншым рэцэпце – дадаваліся яйкі, масліца, цукар, часам – ваніль, мак. Вельмі смачныя, але рабіліся яны толькі на замову.

Па словах спадарыні Валянціны, найвялікшы попыт на абаранкі быў на куццю. Але ў Смаргоні два разы на тыдзень былі базары. Увогуле ж, прадаваць абаранкі можна было кожны дзень. Стаялі драўляныя паднавесы – там і прадавалі. Канкурэнцыя была вялікая:

– Вось стаім мы, напрыклад, а тут прыязджае такі **Янчуковіч**, пытае: «Хто-небудзь каля вас займаў?» і становіцца побач з такім жа таварам.

«Няма Казюка без абаранкаў» – так казалі наведнікі віленскага кірмашу ў гонар свята святога Казіміра. Трапіць туды імкнуліся і смаргонцы:

– У Вільню ездзілі два-тры разы на год, – згадвае Валянціна Булава. – 29 чэрвеня на свята Пятра і Паўла і на Казімера – 4 сакавіка. Часам – 24 чэрвеня, на Яна. Попыт на смаргонскія абаранкі ў святочныя дні быў вялікі.

На віленскі базар мы вазілі два вазы абаранкаў. Каб захаваць таварны выгляд, іх зашывалі ў белыя прасціны. Наймалі людзей, коней, пару сутак шляху – і смаргонскія абаранкі ў Вільні. Каштавалі яны капейкі, вязанка ў адзін-два пальцы – пяць-дзесяць грошай. Самы вялікі абаранак, з далонь памерам – па дзесяць грошай. Калі тавар заставаўся, маці скідвала цану.

На атрыманыя грошы яна штосьці набывала ў Вільні. Прывезла чатыры добрыя крэслы. Дочкам – то паліто, то капялюшык, то суконку – усё было вельмі якаснае.

З прыходам савецкай улады вытворчасць абаранкаў знікла:

– Печ давялося перарабіць. Абаранкі больш ніхто не пёк. Хіба што потым – у кааператыве. З Вільні таксама прывозілі. Але ўсё не такое – іншая тэхналогія. Мы не трымалі нічога ў сакрэце – папросту, нас ніхто не пытаў. Калі б не вайна, мы б мелі шмат запазычанасцяў. Тавар заставаўся, абаранкі сталі мяхамі. Маці была вельмі добрай жанчынай. Усім дапамагала, таму лішняй капейкі ніколі не мелі. Куцця прыйдзе: «Гэля, можа ў цябе абаранчак да маку на свята будзе?». Маці давала: «На здароўе, ешце. Са святам!».

# у Варшаву,


Фота забяспечана Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеем.

У пякарні Альхімовічаў. Злева направа: маці – Алена Альхімовіч, дочкі Яўгенія, Валянціна, Ірына, 1930-я гады.


Фота забяспечана Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеем.

Ганна Русецкая гандлюе абаранкамі ў Смаргоні. 1936 год.

## Таня Скарынкіна: Абаранкі бочкамі ішлі ў Амерыку

Тое-сёе ведае пра абаранкі смаргонка пісьменніца **Таня Скарынкіна:**

– І сёння ў Смаргоні, на вуліцы Іванова (былой Зарэчнай), захаваўся стары будынак з чырвонай цэглы – пякарня **Казіміра Вайцяхоўскага**. Я выпадкова даведалася, што тут пяклі абаранкі. Дзецьмі часта гулялі побач, заглядвалі праз плот падзівіцца на прыгожы будынак. Даведалася, што ў пачатку 20 стагоддзя гаспадар наймаў работніц у пякарню. Працавалі тут таксама і яго сёстры. Адразу рабілі вялікі замес цеста для абаранкаў. На порцыю часам выкарыстоўвалі 60 яек. Абаранкі былі такія, што не чарсцвелі цэлы месяц. Гаспадар прадаваў іх і ў Вільні, і ў Варшаве, і ў Маскве. Нават бочкамі адпраўлялі ў Амерыку. Але гісторыя Вайцяхоўскіх скончылася трагічна. Недзе каля 1908 года гаспадар вяртаўся з гандлю з Вільні ў Смаргонь. Па дарозе яго зарэзалі і забралі ўсю выручку. Пазней я даведалася, што Казімір Вайцяхоўскі быў продкам майго аднакласніка – **Андрэя Вайцяхоўскага**.

## Алесь Белы расказвае гісторыю абаранкаў і развенчвае міфы

Расказаць пра гісторыю знакамітай смаргонскай стравы мы папрасілі гісторыка, культуролага, аўтара кніг па гісторыі беларускай кухні **Алеся Белага**.

– Часам даводзіцца чуць, што Смаргонь – радзіма абаранкаў. Але гэта не так. Гістарычна вядома, што абаранкі з'явіліся ў польскім горадзе Кракаве. Там іх выпякалі яшчэ з канца 14 – пачатку 15 стагоддзя. Доўгі час менавіта гэты польскі горад меў манаполію на іх прыгатаванне. Падзелы Рэчы Паспалітай ад канца 18 стагоддзя адкрылі дарогу і нашым абаранкам. У мястэчках пад Вільняй іх пачалі пячы на продаж. Прычым, не толькі ў Смаргоні. Напрыклад, даволі вядомым быў гэты промысел і ў Воранаве. Але па невядомых пакуль прычынах у лідары ад сярэдзіны 19 стагоддзя вырвалася Смаргонь. Асноўным цэнтрам збыту абаранкаў была Вільня.

Выпякаць абаранкі ў Смаргоні сталі ад пачатку 19 стагоддзя. Магчыма, незадоўга да вайны 1812 года. Пяклі іх з макам або чарнушкай – чорным кменам. Да калектывізацыі крыху чарнушкі высявалі ці не ў кожным заможным двары. Перш за ўсё, каб пасыпаць ёй свойскі хлеб. Асаблівага паху насенне чарнушкі не мела, але калі яго разжаваць, адчуваецца крыху пякучы, смалісты водар.

Паколькі ў беларускіх мястэчках жыло шмат яўрэяў, нельга адмаўляць і яўрэйскі след у абаранках. У Смаргоні гэты след больш заўважны, чым у Кракаве. Па-яўрэйску страва называлася «бэйгл».

Яшчэ адзін міф – абаранкі пяклі адмыслова для студэнтаў смаргонскай акадэміі – мядзведзяў. Тут нават па часе разыходжанне. Смаргонская акадэмія ўзнікла ў 17 стагоддзі і зазнала росквіт у 18, абаранкі ж у Смаргоні вядомыя з 19 стагоддзя. Да таго ж не так багата жылі людзі, каб такі ласунак, як абаранак, мядзведзям аддаваць.

Чаму атрымаўся міф? У Савецкім Саюзе не згадвалі ні пра смаргонскіх мядзведзяў, ні пра абаранкі. У канцы 1990-х – пачатку 2000-х амнезія пачала праходзіць. Абаранкі і мядзведзі вярнуліся ў людскую памяць прыкладна ў адзін час. Вось іх памылкова і звязалі.

Алесь Белы лічыць, што тэма смаргонскага абаранка пакуль не дастаткова раскручаная.

– У Кракаве і сёння абаранак з'яўляецца сапраўдным гастранамічным і турыстычным брэндам. Тут мэтанакіравана ўкладаюцца ў яго развіццё і мясцовыя ўлады, і турыстычная галіна. Абаранак – гэта слава і гонар Кракава. Лічаць, што немагчыма пабываць у гэтым горадзе і не пакаштаваць абаранкаў. У Смаргоні, на маю думку, пакуль робіцца нашмат менш. Але варта памятаць, што стварэнне брэнда, гэта не проста «шуміха». Гэта якасны прадукт і даведзеная да ладу гісторыя, пазбаўленая ляпсусаў.

## Смаргонскія абаранкі – у творах беларускіх пісьменнікаў

**Францішак Багушэвіч**: «... Напярэдадні і ў Дзень заступніка Літвы – святога Казіміра, 3 і 4 сакавіка, у Вільні, на Катэдральным пляцы, збіраецца кірмаш, дзе прадаюць пераважна рознае начынне і драўляныя вырабы, васковыя фабрыкаты з рэштак нашых пушчаў: куфры, мэблю, вазы, такарныя вырабы, дзіцячыя цацкі і розныя кірмашовыя прысмакі: бутрыманскія пернікі, *смаргонскія абаранкі*».

І яшчэ: «У Смаргонях Ашмянскага павета Віленскай губерні ледзь не ўсё мяшчанскае насельніцтва занятае выпечкай маленькіх бублікаў, або крэндзялькоў, якія карыстаюцца вялікай вядомасцю пад назвай смаргонскіх абаранкаў. Кожны праезджы абавязкова купіць некалькі звязак гэтых бублікаў; акрамя таго, іх развозяць у Вільню і іншыя гарады».

**Уладзіслаў Сыракомля** ў дарожным дзённіку ў 1856 годзе пісаў пра Смаргонь так: «Добры дзень, горад старой акадэміі мядзведзяў, сталіца славутых на ўсю Літву абаранкаў, якія, аказваецца, і цяпер вунь прадаюць на станцыі, каля паштовага дома».

А вось, як згадаў знакамітае печыва ў паэме «Каляды» **Уладзімір Някляеў**:

*У зменах часу*
*вечнае нязменна:*
*Мароз! Каляды!*
*Поўны цудаў дом,*
*Ялінка, нацярушанае*
*сена,*
*Накрытае бялюткім*
*абрусом.*
*З Куццёю, са смаргонскім*
*абаранкам,*
*З таўчоным макам!..*
*Божа, што за цуд!..*
*Як снег рыпіць!*
*Якія марозны гуд*
*Над храмам, скуль*
*вяртаецца світанкам*
*Пасля ўсяночнай*
*паспаліты люд.*

А яшчэ Уладзімір Пракопавіч падказаў нам дзве прыказкі пра абаранкі, якія ўжывалі на Смаргоншчыне:

• Абаранак хоць таўсты, ды ў сярэдзіне пусты.

• Круглы, як Янак, што з'еў абаранак.

## Рэцэпт абаранкаў

Рэцэпт абаранкаў мы знайшлі ў інтэрнэце. Праўда, не гарантуем, што гэта менавіта смаргонскія.

**1.** Прыгатаваць густое, але не вельмі крутое звычайнае дражджавое цеста.

**2.** Атрыманую масу добра абмяць і скруціць у тонкі жгут.

**3.** Нарыхтоўку падзяліць на палоскі аднолькавай даўжыні, а потым кожную з іх сагнуць у выглядзе кольца.

**4.** Атрыманыя фігуркі раскласці на ручнік і паставіць у цёплае месца, каб цеста магло трохі паднясцца.

**5.** У вялікай каструлі закіпяціць ваду і злёгку яе падсаліць.

**6.** Закінуць у кіпень некалькі кольцаў і даць ім крыху падварыцца. Такім чынам апрацаваць усе нарыхтоўкі.

**7.** Паўфабрыкаты дастаць з вады і пакласці на драўляную дошку.

**8.** Адправіць нарыхтоўкі ў нагрэтую духоўку і пачакаць, пакуль яны трохі падрумяняцца.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Дзякуем за прапанаваныя матэрыялы Смаргонскаму гісторыка-краязнаўчаму музею.

● КАЛЯНДАР

**5 ЛЮТАГА**

**1940.** Пачалася дэпартацыя некаторых катэгорый насельніцтва з Заходняй Беларусі ва ўнутраныя раёны СССР.

**6 ЛЮТАГА**

**1921.** Выйшаў дэкрэт, які надаў беларускай, яўрэйскай (ідыш), польскай і рускай мовам статус дзяржаўных у БССР.

**7 ЛЮТАГА**

**1981.** У авіякатастрофе ТУ-104 пад Ленінградам загінула ўсё камандаванне Ціхаакіянскім флотам СССР – 16 адміралаў і генералаў. Амаль два дзясяткі капітанаў першага рангу. Столькі вышэйшых марскіх военачальнікаў не загінула за ўсю Другую сусветную вайну. Гэты самалёт у пачатку 1960-х быў на балансе в/ч 15585 (аэрадром у Быхаве). Пасля перадзены ў Ціхаакіянскі флот.

**8 ЛЮТАГА**

**1914.** Нарадзіўся **Валянцін Таўлай**, беларускі паэт, літаратуразнаўца, заходнебеларускі дзеяч. Арыштаваны ў 1934 пры спробе пераходу польска-савецкай мяжы. Знаходзіўся пад следствам у Маладзечне, змешчаны ў турму ў Вілейцы. У Маладзечне яго іменем названая вуліца.



**9 ЛЮТАГА**

1946. Нарадзіўся **Эдуард Зарыцкі** (пам. у 2018), беларускі кампазітар. Шматразовы кіраўнік журы эстраднага конкурсу «Адна Зямля».



**10 ЛЮТАГА**

**1903.** У Будславе нарадзіўся **Вінцэнт Жук-Грышкевіч**, беларускі грамадска-палітычны дзеяч на эміграцыі, настаўнік. Пам. у 1989 у Канадзе.

**11 ЛЮТАГА**

**1807.** Нарадзіўся **Напалеон Орда**, беларускі і польскі мастак, кампазітар, піяніст і педагог.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Расійскі блогер зняў фільм пра беларускі футбол падчас пратэстаў. У ім ёсць гісторыя маладзечанца Крыўцова

**Папулярны расійскі спартыўны блогер Яўген Савін зняў фільм пра беларускі футбол падчас пратэстаў. У фільме Савін паказаў гісторыю фаната ФК «Маладзечна» Мікіты Крыўцова, якога знайшлі павешаным 22 жніўня 2020 года ў лесапаласе ў Мінску.**



Мікіта Крыўцоў падчас акцыі пратэсту на маладзечанскай плошчы 9 жніўня.

### «Ён – душа кампаніі»

Савін узяў інтэрв'ю ў жонкі Мікіты **Алены Крыўцовай**. Жанчына расказала, што яна была ў фанацкім руху жодзінскага «Тарпеда-БелАЗ», а Крыўцоў заўзеў за ФК «Маладзечна». Яны пазнаёміліся праз інтэрнэт, гутарылі на футбольныя тэмы. Бліжэй пазнаёміліся, калі Крыўцоў служыў у вайсковай часці недалёка ад Жодзіна. Па словах Алены, апошнія восем месяцаў з арміі яна чакала ў якасці яго дзяўчыны.

**– Ён – душа кампаніі. Ніколі ў яго не было агрэсіі. Тым больш у адносінах да іншых людзей. Яму было лягчэй вырашыць пытанні мірным шляхам, чым лезці ў нейкія бойкі. Можа, і ёсць фанаты, якія ўдзельнічаюць у бойках, але гэта было не па яго частцы, – расказала Алена пра Мікіту.**

Алена не ведала, што Мікіта будзе выходзіць на акцыю ў першыя гадзіны пасля прэзідэнцкіх выбараў. Па яе словах, муж паехаў галасаваць у Маладзечна, таму што там зарэгістраваны.

– Ён мне пазваніў, сказаў, што прагаласаваў і хутка будзе дома. Калі адбыліся ўсе гэтыя падзеі, то ўбачыла відэа, што ён удзельнічаў у мітынгах, што выходзіў са сцягам.

Алена падзялілася, што Мікіта на ўсялякі выпадак даў ёй кантакты незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» на выпадак, калі яго затрымаюць.

Жонка расказала, што Мікіта 10 жніўня быў у Жодзіне. Ён сказаў, што паедзе на мітынг у Мінск.

– 12 жніўня ён знікае, перастаў выходзіць на сувязь. Мы не панікавалі, таму што ён сказаў, што паедзе ў Смаленск, пасля з намі звяжацца. Ён перастаў выходзіць на сувязь увогуле з усімі, – успамінае Алена.

Яна падзялілася, што яны размясцілі на TUT.by звестку, што сям'я шукае зніклага Мікіту. Пазней Алена стварыла ў інтэрнэце допісы з пошукам Крыўцова. Па яе словах, у міліцыі не прымалі заявы аб знікненні яе мужа.

22 жніўня Алене патэлефанавала бабуля Мікіты і сказала, што яго знайшлі павешаным. Алена расказала, што заява Следчага камітэта, што Мікіта павесіўся нібыта з-за сямейнага канфлікту, – гэта лухта. Яна падзялілася, што дагэтуль ад жніўня да лютага сям'я не бачыла судмедэкспертызу.

– Гэта бязмежжа, дзе нельга сказаць свайго слова і выказаць сваё меркаванне. Гэта будзе працягвацца. Я спадзяюся, у глыбіні душы хочацца верыць, што кагосьці за гэта пакараюць, – лічыць Алена.

### Сябры Мікіты, якія былі з ім на акцыі

Савін пагутарыў з фанатамі ФК «Маладзечна» і сябрамі Мікіты, якія былі з імі падчас пратэснай акцыі 9 жніўня. Яны расказалі, што былі на плошчы, каб адсвяткаваць перамогу. Успамінаюць, што на плошчу выйшлі маладыя людзі з бел-чырвона-белым сцягам, а хтосьці пракрычаў «Давайце ў сцэпку!».

Сябры Крыўцова расказалі, што Мікіта таксама стаяў у счэпцы. Пасля таго, як на плошчы выключылі святло і прыехаў АМАП, сябры не бачылі Мікіту. Праз некалькі гадзін Крыўцоў сам патэлефанаваў сябрам і сказаў, што едзе ў Жодзіна. 9 жніўня быў апошнім днём, калі яны бачылі Мікіту жывым.

Сябры Мікіты расказалі, што першыя дні не шукалі яго, а пасля далучылі да пошукаў усіх знаёмых праз інтэрнэт. 22 жніўня яны ўбачылі фотаздымкі павешанага Мікіты Крыўцова.

**– Мы паглядзелі гэтыя здымкі. Гэта «жэсць» нейкая, і на суіцыд штосьці не вельмі падобна, – сказаў сябра Арцём.**

Сябры не вераць, што Мікіта скончыў жыццё самагубствам.

### «Мы яго знайшлі»

Маці Мікіты **Анжаліка Кухто** таксама дала інтэрв'ю Савіну.

– Нас адправілі дадому. Не пусцілі ў трупярню, нікуды. Нават не сказалі адрас, дзе ён знаходзіцца, – успамінае маці Мікіты дзень, калі яго знайшлі загінулым.

Жанчына кажа, што на апазнанне нікога з родных не пусцілі, таму што ім сказалі, што там няма чаго апазнаваць. Анжаліка кажа, што не верыць у самагубства сына, таму што ў Мікіты было шмат планаў на будучыню. Яна падзялілася, што экспертызы не знайшлі ў яе сына слядоў алкаголю ці наркотыкаў.

Анжаліка ўспамінае акалічнасці 22 жніўня, калі ёй патэлефанавалі з органаў. Гэта было прыкладна каля 19 гадзін вечара.

– Яны шукалі нумар Алены. Я запыталася, што ім трэба, сказала, што я маці Мікіты. Тады мне кажуць, што мы вам скажам. Я пытаюся, што скажаце. «Мы яго знайшлі». Я думаю, ну, можа, на Акрэсціна, у Слуцку ці яшчэ дзесьці. Пытаюся, дзе ён. Такая паўза. Кажуць, ён павесіўся даўно.

Анжаліка лічыць, што ад сям'і штосьці хавалі, таму што не паказалі цела.

– Нам з Алёнай прасцей, таму што мы яго не бачылі. Я сябе супакойваю, што ён з'ехаў у Расію, у Смаленск. Да канца не веру.

Анжаліка ўспомніла, што пасля здымкі праграмы на Белсаце да яе падышоў малады чалавек. Ён сказаў, што разам з Мікітам і яшчэ адным хлопцам былі ў нейкай спартыўнай зале. Там іх збівалі, там апошні раз «засвяціўся» мабільны тэлефон Мікіты. Па словах гэтага хлопца, гэта было ў адным з мінскіх РАУС. Анжаліка расказала, што гэты хлопец баіцца даваць паказанні, але ў будучыні, калі зменіцца ўлада і ён пагодзіцца сведчыць, то можа быць узбуджаная крымінальная справа.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Гэты беларускі і чылійскі навукоўца стаў самым маладым студэнтам Віленскага ўніверсітэта – паступіў у 14 год.
4. Прыстасаванне на кольцах або роліках, на якім катаюцца дзеці пры адштурхоўванні ад зямлі нагой.
5. Калі гарадскія ўлады вырашылі пракласці трамвайныя пуці каля Гёцінгенскага ўніверсітэта, супрацоўнікі абурыліся, што шум будзе замінаць заняткам. І накіравалі ўладам ліст з ультыматумам – калі пуці пракладуць, то ўніверсітэт …
6. Урачыстая форма прывітання або аддача пашаны.
8. Адзінка вымярэння светлавога патоку.
9. Прадмет сталовага прыбора для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы.
12. Паправіцца пасля хваробы; ажыць.
15. Аўтар паэмы «Конрад Валенрод».
17. Спецыяльна прыстасаванае месца, будынак для стаянкі і рамонту лакаматываў, вагонаў.
18. Стваральнік літаратурнага або іншага мастацкага твора, навуковай працы, праекта.
20. Часовае ці пастаяннае аб'яднанне ўзброеных сіл.
22. Ручная зброя ў выглядзе гібкай дугі, сцягнутай цецівой.
25. Літаратурны твор або кінафільм, прысвечаны раскрыццю таямніц, звычайна звязаных са злачынствам.
27. Скульптурны вобраз чалавека або жывёліны, якія звычайна размяшчаюцца на пастаменце.
28. Частка сутак, час ад усходу да заходу сонца, ад раніцы да вечара.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Жаданне задаволіць патрэбы.
3. Адзінаццаты месяц каляндарнага года.
4. Старажытнаскандынаўскі паэт-пясняр.
7. Прозвішча беларускага паэта, які два гады быў у камандзіроўцы ў Іране ў якасці ваеннага карэспандэнта, а вядомасць займеў дзякуючы вершу «Сінія касачы».
10. Вуснае выкладанне вучэбнага прадмета выкладчыкам у вышэйшай навучальнай установе.
11. У хрысціянскай рэлігіі – анёл вышэйшага чыну.
13. Наўмысна ўвесці ў зман.
14. Тое, што падлягае захаванню ўпотай, аб чым не гавораць усім.
16. Спецыяліст, які вывучае дрэвы.
19. Яго скарыла песня «Полю памяці» Леаніда Захлеўнага і Уладзіміра Някляева ў выкананні Яраслава Еўдакімава на канцэрце ў гонар 9 мая. Таму неўзабаве распарадзіўся, каб Еўдакімаву прысвоілі званне заслужанага артыста Беларускай ССР.
21. Што змянілі ў форме салдат са з'яўленнем агнястрэльнай зброі, каб камандзіры лепш бачылі воінаў?
23. Назва чацвертай літары грэчаскага алфавіта.
24. Той, хто карыстаецца паслугамі.
26. У адной французскай хроніцы захаваўся запіс пра аплату 24 ліўраў за роспіс пяцідзесяці папяровых світкаў з рэлігійнымі сцэнамі. Як мы іх цяпер называем?

## Адказы на крыжаванку з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** Па гарызанталі: 1. Дэлегацыя. 6. Карціна. 7. Нябыт. 8. Неба. 9. Дэфініцыя. 11. Вагон. 12. Абеліск. 13. Нырка. 14. Бюджэт. 15 (У папярэднім нумары не завершана пытанне: паводле міфа іракезаў, муж і жонка пасварыліся, жонка сышла, а пасля вярнулася папаўнеўшая. Пра які нябесны аб'ект гаворка?). Месяц. 16. Эсперанта. 20. Каза. 21. Абраза. 22. Кабіна. 23. Выган. 25. Кабель. 27. Вазок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Выезд. 3. Эльф. 4. Экзамен. 5. Эмоцыя. 7. Нота. 10. Акіян. 12. Адміністрацыя. 13. Наменснік. 17. Дыяпазон. 18. Дрэва. 19. Драма. 24. Абацтва. 26. Важак.

## ● ГАРАСКОП НА 5-11 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Праца будзе ісці гладка. Абставіны будуць самі складвацца на вашу карысць. Важна толькі пастарацца паставіць на першае месца не асабістыя амбіцыі, а поспех агульнай справы. Пазычаць штосьці непажадана.



**ЦЯЛЕЦ.** Узнікне адчуванне, што цвёрдая глеба пад нагамі знікае, вас паглынае штосьці непрыемнае і вязкае. Старайцеся своечасова выконваць бягучую працу. Здаецца, нічога сур'ёзнага, але за некалькі гадзін набягае заўважны аб'ём.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы будзеце вельмі актыўныя, а камунікаваць з рознымі людзьмі стане самым важным для вас заняткам. І не захапляйцеся марамі і рамантыкай – у гэты перыяд лепш максімальна прызямліцца.



**РАК.** Бярыцеся за тыя справы, у якіх добра разбіраецеся. Калі ж нешта яўна не ваша моцная кампетэнцыя, лепш папрасіце дапамогі ў калег або сяброў, якія больш дасведчаныя ў гэтай сферы.



**ЛЕЎ.** Важна спачатку планаваць, а пасля працаваць. Калі добра не падумаеце, да чаго ідзяце, то можаце апынуцца ў тупіку. Таму пачніце з таго, што планаванне – самая важная частка працы, і не шкадуйце часу на яе.



**ДЗЕВА.** Будзе не проста захаваць непрадузятасць у спрэчнай сітуацыі. Магчыма, вас паспрабуюць схіліць на чыйсьці бок. Калі вы не згодныя з тым, што вам прапануюць, застаўцеся пры сваім меркаванні. Чыстае сумленне даражэй за сяброўства карыслівых людзей.



**ШАЛІ.** У гэты час давядзецца займацца важнымі дакументамі. Будзьце ўважлівыя і прыдзірлівыя. Часам адно слова можа непрыемна ўскладніць жыццё. Так што пастарайцеся быць дакладнымі ў фармуліроўках.



**СКАРПІЁН.** З новым напорам вернуцца справы і пытанні, якія вы апошнім часам ігнаравалі. Аднак цяпер ігнараваць іх не атрымаецца. Вазьміце сябе ў рукі і пачніце па кроку выпраўляць тое, што не дазваляе адчуваць сябе цалкам шчаслівым.



**СТРАЛЕЦ.** Вас чакаюць шматлікія перамовы, і не толькі па працы. Не тое, каб вам усё гэта было ў радасць, але вынік будзе нават лепшы, чым вы чакалі. Таму пацярпіце дзеля прыемных бонусаў.



**КАЗЯРОГ.** Прыйдзе адчуванне, што нарэшце зварухнуліся з мёртвай кропкі справы, пра якія даўно варта было б забыць. Аднак пойдуць яны на дзіва спрытна, і нават здзівіцеся, чаго так доўга адкладалі іх на паліцы.



**ВАДАЛЕЙ.** Будзе шмат самых розных прапаноў. Шкада толькі, што знайсці сярод іх тыя, якія вартыя ўвагі, не так проста. Пастарайцеся дакладна ўявіць фінішную мэту, і вызначыцца стане прасцей.



**РЫБЫ.** Самым важным будзе пытанне здароўя. Калі адчуеце, што не лішнім было б наведаць доктара – не цягніце. Ідзіце і прасіце рэкамендацый. Таму што, чым раней пачніце іх выконваць, тым хутчэй зажывяце ў поўную сілу.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | 1 | | 7 | | | 8 |
| 3 | | 8 | | 2 | | | | |
| 9 | | | 8 | | | | | 2 |
| | | 4 | | | 2 | 1 | 6 | |
| | | | 7 | 3 | | | | 5 |
| | | | 6 | 1 | | 7 | 9 | |
| | 5 | | | | 1 | 8 | | 9 |
| | | | | 6 | | 4 | | 7 |
| | | | 4 | | | 5 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## Дайджэст: адтэрміноўка па крэдыце на БелАЭС, спрэчкі пра нацыянальны сцяг

**Прапануем прыгадаць, што адбывалася на мінулым тыдні ў Беларусі.**

### Расія адкладае на два гады выплату па крэдыце на БелАЭС

Урад Расіі ўнёс на ратыфікацыю ў Дзярждуму пратакол аб зменах у расійска-беларускае пагадненне пра выдзяленне Беларусі дзяржаўнага экспартнага крэдыту для будаўніцтва АЭС. Дакумент размешчаны на сайце Думы. Сярод іншых пунктаў там пазначанае падаўжэнне перыяду выкарыстання крэдыту на два гады – да канца 2022 года. Таксама пераносіцца дата пачатку пагашэння асноўнага доўгу ад 1 красавіка 2021 года на 1 красавіка 2023. Нагадаем, што пагадненнем ад 25 лістапада 2011 года паміж урадамі Беларусі і Расіі аб выдзяленні дзяржаўнага экспартнага крэдыту для будаўніцтва БелАЭС была зацверджаная сума 10 мільярдаў долараў.

### Ад 1 лютага штодзённа ходзіць аўтобус Мінск-Вільня праз Ашмяны

Ад 1 лютага штодзённа ходзіць аўтобус Мінск-Вільня. Але ёсць праблема. Пакуль большасці беларусаў нельга перасякаць мяжу на наземным транспарце. Як паведамляе Мінсктранс, рэйсы ў Вільню праз Ашмяны будуць адпраўляцца з Мінска ў 14:20, з Вільні – у 18:30. Нагадаем, што ад 20 снежня мінулага года большасці беларусаў выезд за мяжу забаронены. А студэнтам замежных ВНУ і грамадзянам з дазволамі на жыхарства ці працу можна выязджаць не часцей за раз на паўгода.

### Амаль 85 тысяч чалавек падпісалася супраць прызнання БЧБ-сцяга экстрэмісцкім

Генеральная пракуратура анансавала, што рыхтуецца пакет дакументаў аб прызнанні бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім. Патлумачылі ўсё гэта тым, што ў ведамства паступіла больш за сотню зваротаў ад грамадзян з просьбай прыраўняць бел-чырвона-белы сцяг, «які ў гады вайны стаў сімвалам зверстваў на беларускай зямлі», да экстрэмісцкай сімволікі. «У Генеральную пракуратуру паступіў калектыўны зварот, пад якім падпісаліся больш за сотню грамадзян з просьбай аб прызнанні бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкім. З улікам раней праведзенай Генеральнай пракуратурай работы па ўдасканаленні заканадаўства аб процідзеянні экстрэмізму цяпер мы рыхтуем пакет дакументаў аб прызнанні экстрэмісцкімі бел-чырвона-белага сцяга і іншай сімволікі», паведамілі ў Генпракуратуры.

На сайце petitions.by стварылі петыцыю супраць таго, каб сцяг прызнавалі экстрэмісцкім. На раніцу 3 лютага петыцыю падпісала 84 645 чалавек.

**Паводле Генпракуратуры, «Нашай Нівы», petitions.by.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Праваабаронца расказвае пра вашы правы ў выпадках, калі выклікаюць у міліцыю або Следчы камітэт.

## 6 лютага, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-3 м/с

| Горад | Ноч | Дзень | Надвор'е |
| --- | --- | --- | --- |
| Астравец | -14 | -14 | Хмарна з праясненнямі |
| Мядзел | -13 | -14 | Значная воблачнасць |
| Вілейка | -12 | -15 | Пераменная воблачнасць |
| Смаргонь | -11 | -14 | Хмарна з праясненнямі |
| Ашмяны | -13 | -14 | Значная воблачнасць |
| Маладзечна | -12 | -15 | Хмарна з праясненнямі |
| Валожын | -11 | -15 | Значная воблачнасць |

Усход 8.50
Захад 18.02
Даўжыня дня 9.12

Усход 4.22
Захад 12.25
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -29,9°C у 1956 годзе
Максімальная тэмпература +6°C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,3 мм у 1963 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці змянілася стаўленне да беларускай міліцыі?

**Ніна:**
– Канешне, я абураная тым, што чытала. Думаю, што не ўсе такія. Думаю, што нам міліцыя патрэбная, нармальная міліцыя – без гэтага нельга. Але ад таго, якое свавольства было, абурэнню няма канца.

**Павел:**
– Я не ведаю, не думаў пра гэта. Я працую, індывідуальны прадпрымальнік, жалюзі раблю. Я з імі працую, ахове раблю жалюзі. Па рабочых стасунках з імі ўсё добра.

**Андрэй:**
– Так, змянілася ў горшы бок. Не падабаецца, як да народа ставяцца. Знаёмы чалавек з Гродна ішоў па мосце, яго затрымалі, зламалі рабро. Нічога не даказаў. Далі суткі, а ён не ўдзельнічаў ні ў чым.

**Максім:**
– Не. Я асабліва ў палітыку не лезу. Мне гэта ўсё паралельна, я зарабляю сабе на жыццё і на сям'ю.

**Марыя:**
– А чаго яно павінна змяніцца? Наша міліцыя нас беражэ, ахоўвае. Мы рады, што яна ёсць, без іх нам было б цяжка.

**Мікіта:**
– Так. Я першапачаткова збіраўся ісці ў МУС. Маё жаданне змянілася пасля гэтых падзей. Ісці туды я хацеў з-за заробку.

**Падрыхтаваў аддзел інфармацыі.**

Ячшэ больш апытанак вы можаце паглядзець на нашым канале ў Youtube. Мы распытвалі жыхароў Маладзечна пра стаўленне да чырвона-зялёнага і бел-чырвона-белага сцягоў, хто такія беларусы і якімі палітыкамі яны захапляюцца.
**youtube.com/rhby_media**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№6 (1345) 5.02.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 186. Падпісана ў друк у 9.00 4.02.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.